Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск 19 - 25 верасня 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

№38 (126)

КАРАЛЕВА СЯРОД ДАМ



3-я старонка

# Прывітанне з Таджыкістана,

## альбо Хто адабраў у Алесі чабурэк



МАЛАДЗЕЧНА. Каля тыдня, як горад "акупавалі" таджыкі. Звычайна сядзяць уздоўж гарадскіх вуліц, жабруюць. Асабліва шмат іх каля рынку: тут найбольш заліхваецца людзей, якія, да таго ж, маюць грошы.

Заканчэнне на 3-й стар.

# Луісвіль-Маладзечна

## Мы можам стаць партнёрамі. Калі гэтага захочам

Бізнесмены з гарадоў нашага краю у хуткай будучыні змогуць паехаць на колькітыднёвую стажыроўку у амерыканскі горад Луісвіль, што ў штаце Кентукі. Пра гэта, як састаўную частку буйнога амерыканскага праекта на Беларусі, расказалі ў мінулую пятніцу на сустрэчы з маладзечанскімі дзелавымі людзьмі супрацоўнікі Амерыканскага савета па супрацоўніцтве ў адукацыі і моўнаму навучанню (ACCELS) ў Беларусі Кевін Стыкней і Кэрын Уайлд. Сустрэча была арганізавана пры ўдзеле нашай газеты і праходзіла ў турыстычным клубе "Пілігрым".



Кевін Стыкней (справа) падчас сустрэчы з дзелавымі людзьмі. Фота Алега БАШТАВЕНКІ.

Заканчэнне на 3-й стар.

## Адным абзацам

Пягледзячы на заяўленую міністрам замежных спраў шматвектарнасць нашай знешняй палітыкі, з-за адсутнасці сур'ёзных кантактаў на захадзе працягвае ўзмацняцца яе ўсходні напрамак - на наступным тыдні адбудзецца афіцыйны візіт беларускай дэлегацыі на чале з А. Лукашэнкам у Казахстан і Індыю.

Не спраўдзіліся надзеі беларускіх аўтааматараў, што цэны на аўтамабілі Форд, якія збіраюць у Абчаку, будуць прымальнымі для пакупнікоў,- фактычна яны склалі ад 12950 да 17950 долараў у залежнасці ад мадэлі і аказаліся вышэйшымі за прагназуемыя. Першыя аўтамабілі адпраўленыя дылерам для продажу ў Расіі.

## Навіны

### Новае правасуддзе

АСТРАВЕЦ. Галоўны інжынер МРБУ-14 Аляксей Салагуб гаворыць, што неўзабаве адчыніць дзверы Палац правасуддзя.

Раней у адрамантаваным будынку размяшчаліся тэпэрадыёмайстэрня і служба пракату. Мяркуецца, што цяпер там будзе натарыяльная кантора, адвакатура, суд з дзвюма заламі - для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў.

Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.

### Замежная пяшчота

АШМЯНЫ. Госці з Італіі наведалі школу-інтэрнат. Каб сустрэцца з дзецьмі, якіх прымалі ў сябе, паездку самі і прафінансавалі.

Да **Алесі Уласавай** прыехалі адразу трое: брат з жонкай, сястра брата. Сама ж дзяўчынка па сямейных абставінах некальскі год прапускала заняткі ў школе.

- Вашы дзеці такія ж разумныя, ласкавыя, як нашы,- сказалі італьянцы.- Але нашы зрэдку трапляюць у падобныя ўстановы. Калі ёсць нават далёкая радня, то малых забіраюць да сябе.

Аддзел інфармацыі.



# Унутраны свет паэта

## Да 85-годдзя з дня нараджэння Максіма Танка

Як нідзе, у дзённіку таго ці іншага чалавека, тым больш пісьменніка, больш поўна перадаюцца думкі, перажыванні, падзеі, апісваюцца сустрэчы з сябрамі, начальнікамі, а то проста са знаёмымі. У гэтым я яшчэ раз пераканаўся, калі ў часопісе "Полымя" за мінулы і сёлетні год прачытаў тое, што пісаў у дзённіках наш славуты зямляк, народны паэт Беларусі Максім Танк. Пасля яго смерці перадаў для публікацыі яго сын Максім Скурко.



Сын, між іншым, піша ва ўступе да дзённікаў: "Не мне, сыну, ацэньваць значэнне і вартасць гэтых дзённікаў. Скажу толькі, што яны таксама далёка не поўныя. Напрыклад, з дзяцінства памятаю: у сям'і не прынята было гаварыць пра палітыку. І я цяпер разумею, чаму: у школе гэта магло выявіцца самым нечаканым чынам. Або: з успамінаў мамы ведаю, што ўсе першыя пасляваенныя, "сталінскія" гады ў калідоры стаяла нарыхтаваная ёю торба з сухарамі".

Заканчэнне на 5-й стар.

Трагедыя яўрэйскага народа

# Ахвяры СД

Вольга КОЛАСАВА,
старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея.

**"...Провальд паклікаў да сябе аднаго яўрэя год 20-22 на выгляд, які працаваў у гаражы, паслаў за сабакам і загадаў прынесці яго ў зубах. Яўрэй выканаў загад Провальда. Я бачыў, як яўрэй са слязьмі на вачах, увесь мокры, нёс сабаку ў зубах, а Провальд ад душы смяяўся. Потым я пайшоў, і што адбывалася далей, не ведаю, але сабаку яўрэй прынёс у зубах і паклаў да ног Провальда.**

**З паказанняў сведкі І. Баслыка.**



*Акупанты сабе не адмаўлялі ні ў чым. Вілі Георг Цірман, які нарадзіўся 16 верасня 1906г. Фота з архіваў КДБ.*

**Працяг. Пачатак у №№ 36,37.**

**З пратакола допыту Баслыка Івана Іванавіча, які нарадзіўся 13 кастрычніка 1918 г., у г. Масква, грамадзяніна СССР, пражывае ў г. Вілейка, вул. Маркава, д. 21.**

**15 ліпеня 1971 г., г. Вілейка.**

У г. Вілейка я пражываю з 1919 года. У 1940 годзе быў прызваны ў Чырвоную Армію. У 1941 г. знаходзіўся на фронце, трапіў у акружэнне і ў кастрычніку 1941 г. прыбыў у Вілейку, якая да таго часу была акупаваная нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У акупаваным г. Вілейка я пражываў да жніўня 1943 г. Да вясны 1942 г. я нідзе не працаваў. У красавіку 1942 г. Бапаступіў працаваць у Баумтанлюнг - будаўнічую арганізацыю, дзе працаваў па сваёй спецыяльнасці - водаправодчыкам. Гэтая арганізацыя размяшчалася па вул. Партызанскай. У Баумтанлюнгу я працаваў да 17 жніўня 1943 г. Затым пайшоў у партызаны - знаходзіўся там да ўз'яднання з войскамі Чырвонай Арміі. Паступіўшы ў будаўнічую арганізацыю, ужо ў красавіку 1942 г. мы прыступілі да капітальнага рамонту будынка СД, які захаваўся да цяперашняга часу (цяпер у гэтым будынку гарадскі і раённы аддзел унутраных спраў - **вул. Першамайская, д. 52. Аўт.**). Будынак СД быў двухпавярховы, цагляны, пакрыты вапнай. У 1944 г., напэўна, з мэтай маскіроўкі быў перафарбаваны ў розныя колеры. У першай палове дома на першым паверсе размяшчаўся дзяжурны пакой і латышы. У левай палове - сталовая і кухня. На другім паверсе размяшчаліся начальнік СД, следчыя і іншыя супрацоўнікі. З правага боку будынку СД, метрах у 20 ад вуліцы, стаяў невялікі домік, у якім пражываў начальнік СД Р. Граве. Дом быў невялікі, белы, патынкаваны. Далей стаяў трохпавярховы будынак старой паўразбуранай турмы. У двары дома Граве, бліжэй да новай турмы, была помпавая станцыя, у метрах 15 ад помпавай станцыі быў гадавальнік для жывёлы. У гадавальніку былі ваўкі, лісы, вавёркі. У двары будынка СД стаяў новы будынак турмы (часам яе называлі маленькай). Турма была аднапавярховай, абнесена калючым дротам. Праз вуліцу ад будынка СД стаяў вялікі драўляны дом. У адной палове гэтага дома жылі яўрэі, якіх прывезлі ў Вілейку, а ў другой палове дома была майстэрня, у якой працавалі яўрэі-спецыялісты. Некалькі далей у доме жылі немцы, якія працавалі ў СД, у наступным доме жылі латышы і палкоўнік царскай арміі Перамыкін, які знаходзіўся на службе ў СД. У двух кутніх дамах па вул. Горкага і Кастрычніцкай жылі беларусы, што служылі ў Вілейскай СД. Ад будынка СД па вул. Першамайскай далей па вуліцах Молакава, Дзяржынскага і Піянерскай тэрыторыя СД была абнесена драўляным плотам. Плот быў невысокі, рэдкі, у выглядзе штыкетніка.

Да 1942 г. у г. Вілейка супрацоўнікаў СД я не бачыў. Яны ў нашым горадзе з'явіліся неяк у пачатку 1942 г. У Вілейскай СД працавалі немцы, латышы і, некалькі пазней, па-мойму, у 1943 г., набралі беларусаў. Беларусы, у асноўным, неслі ахову і разам з немцамі і латышамі выязджалі на аперацыі. З супрацоўнікаў Вілейскай СД я помню:

**Граве**, ва ўзросце 30-35 год, з'яўляўся начальнікам СД, меў афіцэрскае званне, насіў плеценыя пагоны з дзвюма ці трыма зорачкамі. Увесь час хадзіў у вайсковай форме адзення. У 1944 г., незадоўга да прыходу савецкіх войскаў, падарваўся на міне, устаноўленай партызанамі. Разам з ім знаходхзілася палюбоўнца, якая, атрымаўшы раненне, памерла ў бальніцы. У Вілейку прыязджаа жонка Граве з дачкой год чатырох. Я бачыў яе. Яна была высокага росту, хударлявая. Таксам бачыў, як жонка Граве выходзіла з дома, у якім жыла, на турэмнай сцяне чарціла кругі і страляла з пісталета.

**Эміль**, як яго прозвішча, мне цяжка сказаць, асабіста я быў добра з ім знаёмы, называў яго толькі па імені, размаўляў з ім на польскай мове, якой ён добра валодаў. Эмілю ў 1944 г. было 36-39 год, меў ён эсэсаўскае званне, але не памятаю, якое. Сам ён шафёр, у Вілейскай СД працаваў начальнікам гаража.

У канцы красавіка ці пачатку мая 1943 г. я быў відавочцам, як Эміль з адным латышом, які працаваў у СД, вывелі з будынка новай турмы пяць арыштаваных мужчын і адну жанчыну і ў двары старой турмы расстралялі. Арыштаваныя ішлі, падтрымліваючы адзін аднаго. Уперадзе ішлі тры мужчыны. Два крайнія падтрымлівалі рукамі сярэдняга. Ён быў моцна збіты і сам ісці не мог. Следам за трыма мужчынамі ішла жанчына, якую падтрымлівалі пад рукі двое мужчын. Мне добра запомнілася, што жанчына была моцна збітая, з галавы на шыю цякла кроў. На выгляд жанчыне было год 30. Калі арыштаваных завялі ў двор турмы, я к таму часу залез на сценку турмы зверху і добра бачыў, як асуджаных падвялі да раней выкапанай ямы, размешчанай у двух-трох метрах ад турэмнай сцяны, паставілі ў адзін рад, і Эміль чаргой з аўтамата расстраляў усіх шасцярых чалавек. Пасля расправы Эміль і латышы, не закопваючы трупы расстраляных, накіраваліся назад. Я ж, каб мяне не заўважылі, хутка злез са сцяны, узяў ліст жалеза і пайшоў да сябе ў помпавую. З помпавай я пайшоў у гараж, каб закурыць, і ўбачыў там Эміля, які драўляным дзяржаннем ад лапаты збіваў аднаго яўрэя, 19-20 год. Эміль яўрэя збіваў за тое, што той не накачаў колы ад аўтамашыны. З шасці расстраляных я нікога не ведаў. Былі гэта рускія ці беларусы. У чым абвінавачвалі немцы расстраляных, мне невядома. Ці былі яны партызанамі, мне цяжка сказаць.

Іншых канкрэтных фактаў у дачыненні да Эміля я не ведаю. У жніўні 1943 г., адыходзячы з Вілейкі, Эміль заставаўся ў горадзе. Акрамя Граве і Эміля, я помню Провальда, імені яго назваць не магу, у той час Провальду было 35-37 год, немец, меў званне, але не памятаю, якое, высокага росту, сярэдняга целаскладу, бландзін, паважны мужчына, кіраваў работай сталовай і кухні СД. Хадзіў у вайсковай форме, на галаўным уборы меў адметную адзнаку - чэрап з перакрыжаванымі касцямі, на левым рукаве - павязку са свастыкай. Размаўляў толькі па-нямецку. Пра злачынную дзейнасць Провальда жадаю патлумачыць наступнае: вясной 1943 г., але больш дакладнага часу назваць не магу, гадзін у адзінаццаць дня, я знаходзіўся ў гаражы, размешчаным на тэрыторыі СД. У гэтым жа гаражы было некалькі яўрэяў, якія рамантавалі аўтамашыну. Яўрэі былі незнаёмыя, таму што ў Вілейку былі прывезеныя з іншых месцаў. Знаходзячыся ў гаражы, я бачыў, як са сталовай выйшаў Провальд, быў ён у нацельнай сарочцы і з вінтоўкай у руках, убачыў на могілках невялікага сабаку-дварняжку і стрэлам з вінтоўкі забіў яе. Пасля гэтага Провальд паклікаў да сябе аднаго яўрэя год 20-22 на выгляд, які працаваў у гаражы, паслаў яго за сабакам і загадаў прынесці яго ў зубах. Яўрэй выканаў загад Провальда. Я бачыў, як яўрэй са слязьмі на вачах, увесь мокры, нёс сабаку ў зубах, а Провальд ад душы смяяўся. Потым я пайшоў, і што адбывалася далей, не ведаю, але сабаку яўрэй прынёс у зубах і паклаў да ног Провальда.

Работнікі Вілейскай СД на тэрыторыі СД і ля старой турмы праводзілі неаднаразовя расстрэлы. Я асабіста быў таксама відавочцам расстрэлу васьмі мужчын у жніўні 1943 г. Яны былі расстраляныя ў яме, між турэмнай сцяной і цагляным плотам, г. зн., на тым месцы, дзе Эміль расстраляў шэсць чалавек.

Вясной 1942 г., дакладнага часу не памятаю, сам асабіста бачыў, як немцы ў форме СД павілі яўрэяў у Вілейцы, садзілі ў кузавы грузавых аўтамашын і адвозілі па дарозе ў бок Смаргоні. Сярод яўрэяў, якіх вылоўлівалі немцы, былі мужчыны, жанчыны, старыя і дзеці.

У Вілейцы пражывала многа яўрэйскага насельніцтва, і ўсё яно ў гады акупацыі было знішчана немцамі. Відавочцам расстрэлу яўрэяў я ніколі не быў, аднак чуў размовы, што іх расстрэльвалі за чыгуначнамі пуцямі і за яўрэйскімі могілкамі. Трупы расстраляных звычайна спальваліся немцамі, і па горадзе распаўсюджваўся невыносны смурод.

Працуючы ў СД, я не раз бачыў, як немцы з Вілейскай СД машынамі прывозілі верхняе адзенне, кофтачкі, абутак, трыкатаж. Пасля гэтага я чуў размовы, што немцы, праводзячы расстрэл яўрэяў, маёмасць апошніх забіралі.

На гарышчы будынка СД увесь час віселі касцюмы, паліто і іншыя рэчы. Адкуль прывозілася адзенне, сказаць не магу. Адзенне, якое прывозілі, я бачыў у 1942 г. і ў 1943 г. Звычайна адзенне, якое прывозілі, вісела на гарышчы тыдні два-тры, потым яго некуды адвозілі і прывозілі зноў.

Пратакол допыту мной прачытаны, мае паказанні запісаныя правільна, заўваг я не маю.

Подпісы.

**Працяг будзе.**

## Польшча шукае сваіх абаронцаў

*АСТРАВЕЦ. Па-рознаму склаліся лёсы людзей, якія ў 1939 годзе ў складзе Польскай Арміі змагаліся супраць захопнікаў. Адны загінулі ў баях, іншых вывезлі на работу ў Германію, некаторых лёс параскідаў па беларускіх ды расійскіх землях.*

Цяпер гэтых людзей адшуквае ўрад Польшчы, каб аддзячыць ім. Старшыня раённага аддзялення Саюза палякаў Беларусі Часлаў Мацкевіч гаворыць, што будзе ўдзячны, калі хто-небудзь з былых воінаў Польскай Арміі адгукнецца.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## З радзімы на радзіму

*ВІЛЕЙКА. Група з 25 яўрэяў з Куранца прыехала ў Куранец. Вёска заснаваная ў Ізраілі выхадцамі з нашай адміністрацыйнай адзінкі.*

Пасля II Сусветнай яўрэі перанеслі туды і назву, і лад жыцця. Адкрылі кафэ, рэстаран. Раней 2 разы на год наведвалі Беларусь. Цяпер прыязджаюць з гістарычнай радзімы на радзіму фактычную па-магчымасці.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

Пажары

## "Шанцуе"

*АСТРАВЕЦ. Толькі стрэлкі гадзінніка перайшлі за 2 гадзіны ночы панядзелка, як пажарныя падраздзяленні "Кямелішкі", "Варняны" і "Астравец" вымушаныя былі накіравацца на тушэнне пажару, які ўзнік у хляве В. Бабіч у Рудзішках. Прычына ўзгарання ўстанаўліваецца.*

Пасля шасці раніцы на станцыі Гудагай з-за няспраўнасці печы загарэлася летняя кухня Г. Бажко. На тушэнні былі задзейнічаныя аддзяленні з АП "Ізабеліна" і "Астравец-1".

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Гульня

*ВІЛЕЙКА. Віталь, Кацярына, Міхаіл, Канстанцін Пісаравы з вёскі Лукавец расклалі ў хляве касцёр.*

Агонь будынак толькі пашкодзіў. Па словах суседзяў, усім кіруе старэйшы 8-гадовы Віталь. Былі выпадкі, калі дзеці спрабавалі раскласці агонь на двары і ў жылых пакоях хаты.

*Алена АЛЬФЕР.*

## Свечка для кошкі

*ВІЛЕЙКА. 11-гадовая дзяўчынка з Мардасаў чакала, пакуль любімаяи кошка нарodзіць кацянятаў.*

Увечары палічыла, што кацяняты ўжо з'явіліся на свет. Запаліўшы свечку, пайшла паглядзець на іх у нежылую хату. У выніку згарэла сена, што там знаходзілася, сам будынак і любімая кошка з кацянятамі.

*Марына Тачынская.*

# Нагрузка на "09" будзе меншай

## Прыкамсі, у Смаргоні

***У мінулую пятніцу у памяшканні "Новой газеты Сморгони" адбылася прэзентацыя новага тэлефоннага даведніка Смаргоні. Кульмінацыйным момантам падзеі было ўскрыццё ва ўрачыстай абстаноўцы ўпакоўкі з прывабнымі кнігамі-даведнікамі.***

-- На ўсю падрыхтоўку і друкаванне спатрэбілася не больш за паўтара месяца,-- гаворыць галоўны рэдактар "НГС" і адначасова рэдактар і ўкладальнік даведніка **Рамуальд Улан**.-- Усе работы рабіў практычна самастойна: набор, вёрстка. Даведнік дадаў сівых валасоў у маю галаву.

Выдаўцом даведніка, у які апроч "тэлефоннай" часткі ўвайшлі звесткі аб руху гарадскога транспарту, карта Смаргоні, выступіла мінскае прадпрыемства "Инпредо". Мяркуемы агульны тыраж будзе складаць 5000 асобнікаў. Наклад будзе ўдакладняцца ў залежнасці ад попыту і дадрукоўвацца, калі ў гэтым будзе патрэба. Цана ў рэдакцыі такога даведніка сёння складае 65000 рублёў. А што попыт будзе сумнявацца не прыходзіцца, бо ў Смаргоні апошні тэлефонны даведнік быў выпушчаны восем год таму, яшчэ за савецкім часам. Шмат вады сплыло. З'явіліся дзесяткі, калі не сотні новых абанентаў і ўсё гэта адбівалася на нагрузцы даведачнай службы сувязістаў. Якія, дарэчы, прыйшлі з кветкамі на тую самую прэзентацыю. Былі кветкі ад "Комплексбанка", віншаванні ад рэкламадаўцаў. Неблагую справу зрабіў Рамуальд Улан для смаргонцаў.

*Мікола ГАЙДУК.*

## Адным абзацам

Нацыянальным банкам рэспублікі ўстаноўлены курс долара на ўзроўні 27730 рублёў. Аднак чаргі ля акенцаў абменных пунктаў няма - па такім курсе развітвацца з валютай ніхто асабліва не спяшаецца. На міжбанкаўскім рынку ён склаў каля 37000 рублёў.

У Валожыне адкрылася аддзяленне судмедэкспертызы ад Мінскага абласнога бюро. Раней за гэтымі паслугамі неабходна было звяртацца ў Маладзечна.

Астравецкія настаўнікі вылучылі двух дэлегатаў на I рэспубліканскі з'езд, які пройдзе 3-4 кастрычніка ў Мінску. Накіраваць больш педагогаў не дазволіла вобласць.

А вось ад Смаргоншчыны абмяркоўваць пытанні рэформы школы будуць 5 чалавек. 12 верасня сход настаўнікаў зацвердзіў прапанаваныя кандыдатуры вопытных педагогаў з вялікім стажам работы.

Валожынскае піва знайшло сабе прытулак і ў сталіцы: тут пачаў работу рэстаран-півоварня "Ракаўскі бровар".

## Конкурс прыгажосці

# Каралева сярод дам



***МАЛАДЗЕЧНА. Тытул найпрыгажэйшай у раённым конкурсе атрымала 19-гадовая жыхарка вёскі Палачаны беспрацоўная Святлана Каралевіч.***

Пасля заканчэння ўлікова-планавага тэхнікума не можа працаўладкавацца. Пакуль ёй прыходзіцца сядзець на шыі бацькоў: маці-бухгалтаркі і бацькі-брыгадзіра.

Святлана - добры коннік. Тры гады займалася ў конна-спартыўнай школе. З 16 год ездзіць яшчэ і на матацыкле "Мінск".

На гэтыя выхадныя Святлана возьме ўдзел у абласным конкурсе. У Барысаве, куды з'едуцца прыгажуні, трэба пры сабе мець па тры слайды, якія павінны падкрэсліваць фізічныя дадзеныя канкурсантак.

Адзін прафесійна зроблены слайд, па словах Святланы, каштуе 30 долараў. На час падрыхтоўкі матэрыялу яна яшчэ не знайшла дзеля гэтага грошай.

*Віця КАРАНІК.*

# Прывітанне з Таджыкістана

*Пачатак на 1-й стар.*

Таджыкістан успрымаецца цяпер як фронт. Несумненна, што і гэтыя жанчыны з малымі дзецьмі - звычайныя бежанцы. У Маладзечна - як і некаторыя іншыя гарады - яны прыехалі з Мінска. Менавіта ў сталіцы яны аселі сваёй абшчынай; адтуль рэгулярна раз'язджаюцца па наваколлях. Выбіраюць, праўда, не бульбяныя палеткі, дзе трэба працаваць, а гарады, дзе людзі амаль заўсёды пры грашах і могуць нешта ахвяраваць і ім.

- Адзін раз мы ўжо вывозілі гасцей з горада,- гаворыць **начальнік маладзечанскай муніцыпальнай міліцыі Пётр Багдановіч**.- Пасадзілі на электрычку - адправілі ў Мінск. Але сёння (у аўторак - **рэд.**) па горадзе праехаў - сядзяць. Іх мала, але ёсць.

Сапраўды, у Маладзечне іх рэзка паменшала. Па першым жа часе амаль што прайсці ля іх не было як. Стаў сведкам выпадку, калі маленькая таджычка вырвала з рук нашай дзяўчынкі чабурэк. Чаму мы мусім карміць не сваіх дзяцей?

- Нешта зрабіць з імі складана,- канстатуе П. Багдановіч,- бо заканадаўчая база на такія выпадкі адсутнічае. Лічу, што гэта праблема не маладзечанскага гарвыканкома і міліцыі, але рэспубліканскага ўзроўню.

З боку няпрошаных гасцей процiпраўных дзеянняў не зафіксавана. Калі не лічыць выпадкаў накшталт таго чабурэка. Трэба думаць, пакуль што, бо таджыкі прыехалі яўна не працаваць і тым зарабляць на жыццё.

*Сямён ДАЎГАЛЁЎ.*

# "Чапаеўцы" былі на свяце

***АСТРАВЕЦ. На свята "Дажынкі-97", якое ладзілася ў Мастах, ездзіла дэлегацыя ў складзе 12 чалавек. У асноўнай масе - гэта старшыні калгасаў, брыгадзіры, інжынеры, а таксама старшыня выканкома і начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі.***

Вызначаліся сярод іх Іосіф Валанцэвіч і Сяргей Азараў - экіпаж камбайна Дон-1500, якія намалацілі больш за 1000 тон зерня і сталі пераможцамі сярод маладых экіпажаў. Трэба меркаваць, у хуткім часе яны атрымаюць халадзільнік і тэлевізар.

Як відаць, "Дажынкі" ладзіліся хутчэй для начальства, чым для простых рабацяг.

*Аддзел інфармацыі.*

## Адам і Ева

# Пенсіянеры хварэюць на сіфіліс

КОЛЬКАСЦЬ ЗАРЭГІСТРАВАНЫХ ВЫПАДКАЎ СІФІЛІСА ЗА 8 МЕСЯЦАЎ




? ВІЛЕЙКА, АШМЯНЫ - звестак няма

*МАЛАДЗЕЧНА*. 213 чалавек з горада, 80 - з раёна.

Зафіксавана 368 кантактаў

Дадзеныя па раёне

42 чал. ад 20 да 29 год, 16 - ад 30 да 39, 16 - ад 40, 1 - 14-гадовы.

29 рабочых, 3 пенсіянеры, 44 не працуюць, 1 служачы, 1 студэнт, 2 навучэнцы

Лідэры - Радашкоўскі с/с - 19

Лебедзеўскі с/с - 19

5 хворых звярнуліся самі

Астатнія выяўленыя праз медыцынскія ўстановы.

*ВАЛОЖЫН*. 20 з горада, 18 з раёна

10 рабочых, 5 калгаснікаў, 6 служачых, 1 школьнік, 16 не працуюць

18 - ад 20 да 29 год, 12 - ад 30 да 39, 6 - ад 40, 2 - ад 15 да 17.

Сярод 18-19-гадовых навучэнцаў ПТВ хвароба не выяўленая

*МЯДЗЕЛ*. 16 мужчын, 13 жанчын

Сярод іх 2 школьнікі.

Летась за 8 месяцаў таксама 29 выяўленых.

*АСТРАВЕЦ*. Лідэр - Варнянскі с/с.

Значны рост - летась за цэлы год выяўлена 28.

*Аддзел інфармацыі.*

# Луісвіль-Маладзечна

## Мы можам стаць партнёрамі. Калі гэтага захочам

*Пачатак на 1-й стар.*

Мэты праграмы - пазнаёміць удзельнікаў з беларускага боку з амерыканскім бізнесам праз сустрэчы, навучанне, развіццё сувязяў паміж гарадамі ЗША і Беларусі. Прыамсі, з беларускага боку будуць адбірацца не толькі бізнесмены, але і прадстаўнікі трэцяга сектара -- недзяржаўных непрыбытковых грамадскіх арганізацый. У праграме акрамя Маладзечна (чытай: нашага рэгіёна -- **рэд.**) удзельнічаць будуць таксама Брэст, Гомель, Гродна, Магілёў. Тэрмін пачатку рэалізацыі праграмы -- не раней студзеня 1998 года. Падчас прабывання ў Штатах прадстаўнікі Беларусі будуць жыць у амерыканскіх сем'ях. Удзельнікі праграмы мусяць аплаціць толькі праезд да аэрапорта і афармленне дакументаў. Усё астатняе бярэ на сябе амерыканскі бок. Абавязковая ўмова -- валоданне англійскай мовай.

Праграма прадугледжвае не толькі навучанне, а таксама і тое, што пасля вяртання удзельнікі маглі б стварыць каманду, якая б нешта зрабіла ў беларускім бізнесе, сапраўды дапамагла свайму (сваім) гарадам. Удзельнікі, па задумцы аўтараў праекта, стануць звяном у перадачы амерыканскага вопыту.

Усяго ў Беларусі будзе адабрана 75 чалавек (сорак бізнесменаў і трыццаць пяць прадстаўнікоў трэцяга сектара). Праграма будзе мець працяг, у тым ліку ў Маладзечне і нашым рэгіёне. Так што супрацоўніцтва з Луісвілем (а менавіта гэты горад абраны нашым партнёрам) можа стаць сапраўдным сяброўствам. Тым больш што **пані Кэрын** ужо знаёмая з нашым краем -- была некалі ў складзе дэлегацыі амерыканцаў у Вілейцы. Той візіт пакінуў у сэрцы амерыканкі толькі добрыя ўражанні.

Застаецца дадаць, што па аналагічнай праграме прайшлі стажыроўку больш за 4000 чалавек у Расіі і іншых краінах былога СССР.

Больш падрабязна аб праграме ACCELS вы можаце даведацца па тэлефоне (факсе) у Мінску (017)236-68-83 або па тэлефонах рэдакцыі "Рэгіянальнай газеты" (01773) 53841, 69667. **26 верасня аб 11-й гадзіне ў Маладзечне адбудзецца новая сустрэча.** Запрашаюцца ўсе жадаючыя. Дадатковая інфармацыя - у "Рэгіянальнай газеце".

*Мікола ГАЙДУК.*

## Суббота, 27 сентября

**БТ** **8.00** Новости. **8.10** Здоровье. **8.40** Международный курьер. **9.05** "Все про все". **9.30** "Под углом 23,5 градуса". **9.55** Уроки Н.Новожиловой. **10.25** Регион. **10.55** "Судьба моя и надежда". **11.25** Зеркало. **11.50** "Все нормально, мама!" **12.25** Мотоспорт. **12.45** Родовод. **13.05** Многоголосие. **13.35** "Музыкальная обойма". **13.50** "Макаенка, 9". **14.10** "Создатели сельской галереи". **14.20** "Китеж белорусского Полесья". К 900-летию г. Пинска. **15.00** Новости. **15.15** Телеспорт. **16.00** "Риск-версия". **16.30** Белорусский дом. **17.00** Турнир по вольной борьбе. **18.10** Зорная ростань. **18.40** Галерея. **19.10** Х/ф "Собака на сене". 1-я с. **20.20** История любви. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.50** Теленавигатор. **22.10** Х/ф "Пять углов" (США). **23.45** Третий тайм. **0.05** ВИДИМО-НЕВИДИМО.

**1 ОРТ** **7.00** Х/ф "Координаты не известны". **8.30** М/ф. **8.40** Лотто-Миллион. **8.45** Слово пастыря. **9.00, 14.00, 17.45** Новости. **9.10** Домашняя библиотека. **9.30** Утренняя почта. **10.05** "Каламбур". **10.35** Смак. **10.55** Возвращение Третьяковки. **11.20** Х/ф "Ваш сын и брат". **12.55** Оперный турнир во дворце княгини Шаховской. **13.30** Очевидное-невероятное. **14.20** Умники и умницы. **15.05** М/ф. **15.55** Футбол. Чемпионат России. **17.50** В мире животных. **18.25** Погода. **18.30** "Двенадцать стульев". 2-я с. **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **21.00** "Двенадцать стульев". 3-я и 4-я с. **0.00** Х/ф "Из жизни марионеток".

**РТР** **6.00** Утренний экспресс. **6.55** "Фрам - полярный медведь". Телесериал (Румыния). 1-я с. **7.45** М/ф. **8.05** "Меморина". **8.30** Человек на земле. **9.00** Доброе утро, страна! **9.45** Компьютер. **10.00** Вести в одиннадцать. **10.20** "Мини-футбол". **11.25** Парламентский вестник. **11.50** Новая Россия. **12.05** Федерация. **12.30** Новое Пятое колесо. **13.00, 19.00** Вести. **13.20** Телескоп. **13.50** Книжная лавка. **14.15** Медицинский вестник. **14.30** "Белые ночи". Х/ф. **16.00** Вести про... **16.25** Бесконечное путешествие. **16.55** Совершенно секретно. **17.50** Московская панорама. **17.55** Старая квартира. Год 1956. **19.35** Репортер. **20.05** "Женщина в белом". Сериал (Великобритания). 1-я с. **21.10** "Городок". **23.45** Тихий дом. **0.10** Любовь с первого взгляда. **0.50** Живая коллекция.

**5** **9.30, 12.30, 15.30, 18.30** Информ ТВ. **9.40** "Парад парадов" **10.20** Честь имею. **10.45** "Окно в мир". **12.00** "Наобум". **12.45** Страсти-мордасти. **13.00** Золотой фонд. **14.35** "Лотто-бинго". **15.45** Спорт. **16.05** Взлетная полоса. **16.35** "Колоброды" выходят на связь. **16.55** Весь этот цирк **18.55** Большой фестиваль. **19.15** "Игра воображения". Х/ф. **20.30** Завтра - выборы в местное самоуправление. **20.50** Блеф-клуб. **21.30** Светская хроника. **21.45** "Новый Петербург" **22.15** "Как живете, караси?" Х/ф.

**НТВ** **7.00** Х/ф "Два бойца". **8.20** М/ф "Назад в будущее". **9.00** Сегодня утром. **9.10** "Итого" с Виктором Шендеровичем. **9.30** "Пойми меня". **10.00** "Война в космосе". **10.45** От "Винта". **11.00, 15.00** Сегодня днем. **11.15** "Панорама" с Всеволодом Овчинниковым. **11.45** Криминал. **12.00** Хоккей. Чемпионат России. **14.30** "Каролина в Нью-Йорке" (США). **15.15** Звезды в квадрате, или Проще простого. **16.00** "Саванна". **17.00** Догшоу. **17.30** Герой дня без галстука. **18.00, 21.00** Сегодня вечером. **18.30** Х/ф "Игрок" (США). **20.45** Куклы. **21.45** "Байки из склепа" (США). **22.15** "Кнопка плюс". **22.30** "Футбольный клуб". **23.20** "Про это". **0.05** "Плейбой — шоу".

**TV6** **6.00, 7.00, 22.15** Шесть новостей. **6.10, 17.35, 23.55** Диск-канал. **7.10, 23.40** Дорожный патруль. **7.20** Телемагазин. **7.35** М/ф "Миллион в мешке". **8.05** Цептерприз. **8.15** Х/ф "Дети из помойного бака" (США). **10.00, 17.15** Ералаш. **10.25** Сериал о природе. **11.30** Рекламная пауза. **12.30** "6 дней ТВ-6 в г.Сургуте". **12.50** Диск-канал для детей. **13.45** Ток-шоу "Я сама". **14.45** Ток-шоу "Профессия". **15.40** Клуб одиноких сердец. **16.15** "Прекрасные господа из Буа-Доре" **18.55** Скандалы недели. **19.30** "ОСП-студия". **20.20** "Фитиль". **20.35** Х/ф "Белое солнце пустыни". **22.25** "6 дней ТВ-6 в г.Сургуте". **22.45** "Обоз". **1.00** Х/ф "Смертельное расследование" (США).

## Воскресенье, 28 сентября

**БТ** **8.00** "Коктейль по воскресеньям". **9.00** "Все дело в шляпе". **9.30** Мультиклуб. **10.00** Вершина мира. **10.35** "Все нормально, мама!" **11.10** Туробъектив. **11.30** "Марсово поле". **12.00** Сельчане. **12.30** Накануне будущего. **13.10** Олимп. **13.30** I Международный турнир исполнителей бального танца. **13.55** "Аплодисменты". **14.20** Творцы. **15.00** Новости. **15.15** Уникум. **15.55** Силач. **16.35** "Оскар". **17.05** Гала-концерт "Житень-97". **18.00** "Собака на сене". 2-я с. **19.10** Бездельник. **19.40** Колыбельная. **20.00** Резонанс. **20.50** СТК. **21.10** Телебарометр. **21.25** Ток-шоу "Карамболь". **22.00** Х/ф "Голубая бездна" (Франция). **23.55** Турнир по вольной борьбе. **0.35** Бархатный сезон.

**1 ОРТ** **7.00** Х/ф "Первый троллейбус". **8.25** М/ф. **8.55** Спортлото. **9.00, 14.00, 23.15** Новости. **9.10** "Непутевые заметки" Дм.Крылова. **9.30** Пока все дома. **10.10** Утренняя звезда. **11.00** Армейский магазин. **11.30** Играй, гармонь любимая! **12.00** Сельский час. **12.25** "Подводная одиссея команды Кусто". **13.20** Смехопанорама. **14.15** "Приглашение к музыке". **14.45** Клуб путешественников. **15.30** "Розовая пантера". М/ф. **16.05** Один на один. **16.35** Футбольное обозрение. **17.05** Клуб "Белый попугай". **17.55** Погода. **18.00** Х/ф "Осенний марафон". **19.50** Киноафиша. **20.00** Время. **20.40** Х/ф "**ТЕРМИНАТОР-2: СУДНЫЙ ДЕНЬ**". **23.30** Х/ф "Загадочная болезнь".

**РТР** **6.00** Утренний экспресс. **6.55** "Фрамми — полярный медведь". **7.45** М/ф. **8.00** L-клуб. **8.30** Присяга. **9.00** Доброе утро, страна! **9.45** 900 кубов. **10.00** Вести в одиннадцать. **10.20** Русское лото. **11.00** Пульс. **11.25** Новая Россия. **11.35** Люди, деньги, жизнь... **12.05** "У всех на устах". **12.30** Двойной портрет. **13.00** Вести. **13.20** "Тихий Дон". 3-я с. **15.20** Довгань-шоу. **15.50** Диалоги о животных. **16.05** Волшебный мир Диснея. **17.00** "Игра всерьез". **17.25** Неизвестная планета. **17.55** "Аншлаг" и К. **19.00** Зеркало. **20.05** "Женщина в белом" **21.05** Московская панорама. **21.10** Футбол без границ. **21.45** "К-2" представляет. **22.40** У Ксюши. **23.10** Подиум д"АРТ. **23.40** "Номер "люкс" для генерала с девочкой". Х/ф.

**5** **9.30** Информ ТВ. **9.45** Папа, мама, я — спортивная семья. **10.15** Овертайм. **10.40** "Индаба". **11.10** "Слоны Африки: борьба за территорию". Д/ф. **12.00** "Негаснущие звезды". **12.30, 15.30** Информ ТВ. **12.45** Экспресс-кино. **13.05** Хоккей. Чемпионат России. **14.45** Исторические расследования. **15.45** Спорт. **16.05** Детское ТВ. **16.55** Сталкер. **18.30** Обратный отсчет. **18.55** Большой фестиваль. **19.10** "Фонтан". Х/ф. **20.45** Ноу смокинг. **21.30** У всех на виду. **21.45** Международное обозрение. **22.20** "Парад парадов" представляет...

**НТВ** **7.00** Золотой патефон. **7.30** Время "Ч" с Ольгой Кучкиной. **8.00** Новости дня с Наталией Антоновой. **8.15** Среда. **8.30** М/ф "Назад в будущее". **9.00** Сегодня утром. **9.15** Кнопка плюс. **9.30** "Пойми меня". **10.00** "Война в космосе". **10.45** От "Винта". **11.00, 15.00** Сегодня днем. **11.15** Полицейские будни. **11.30** Век футбола. **12.00** Х/ф "Продавщица фиалок" (Италия — Испания). **14.00** Своя игра. **14.30** "Маски-шоу: избранное". **15.30** Устами младенца. **16.00** "Саванна". **17.00** Сегодня вечером. **17.30** Х/ф "Мое любимое время года" (Франция). **20.00** Итоги. **21.15** Х/ф "Планета обезьян-1". **23.15** Кнопка плюс. **23.30** Х/ф "Полное затмение" (Франция — Великобритания — Бельгия).

**TV6** **6.00, 7.00, 16.50** Шесть новостей. **6.10, 17.45** Диск-канал. **7.10** Дорожный патруль. **7.20, 12.30** Телемагазин. **7.40** М/ф. **8.10** "Легенда о волчьей горе". **9.50** "Пальчики оближешь". **10.30** "Назло рекордам!". **10.55** Сериал о природе. **11.55** Канон. **12.40** Ток-шоу "Музыка и пресса". **13.35** Ток-шоу "Сделай шаг". **14.30** Спорт недели. **15.00** Весь мир товаров ГУМа. **15.05, 18.50** Ералаш. **15.30, 21.20** "6 дней ТВ-6 в г.Сургуте". **15.45** Москва Станислава Кучера. **16.00** "Прекрасные господа из Буа-Доре". **17.00** Ток-шоу "Мое кино". **19.10** "Фитиль". **19.25** Х/ф "За спичками". **21.40** Х/ф "Слияние двух лун". **23.40** "Партийная зона".

# Унутраны свет паэта

*Пачатак на 1-й стар.*

Чытач, напэўна, здагадаўся, чаму былі торба і сухары. Паэт і яго сям'я маглі апынуцца там, дзе ў передваенныя і пасляваенныя гады апынуліся сотні пісьменнікаў, паэтаў, дзеячаў навукі і культуры Беларусі. "І гэта, - працягвае сын Максім Скурко, - пры бездакорнай адданасці ідэалам, у якія верыў, за якія змагаўся Яўген Іванавіч".

Дзённікі Максім Танк пачаў весці (хаця адмаўляў ад гэтага Аркадзь Куляшоў) у ваенны час. 11 ліпеня 1943 года паэт, між іншым, запісаў: "Думаю, пасля гэтай страшэннай вайны, калі нам суджана вярнуцца дамоў, будзем больш даражыць сваёй зямлёй, а каб не быць на ёй пустазеллем, даражыць родпай мовай".

Родная мова! Пра яе наш зямляк не пакідае турбавацца і пасля вайны. Яго абурае, што "...на 1947 год, здаецца, не запланавана ніводнай кнігі беларускіх пісьменнікаў". Чытаем і такі запіс: "...А ў нас многія і сёння абвінавачваюць у нацыяналізме, тады, калі стан беларускай мовы і літаратуры не можа не насцярожваць". "Беларускі народ выпакутаваў сваіх паэтаў, мастакоў - вялікіх і малых. Усе яны нараджаліся пад трывожнымі зоркамі. І нам заўсёды нешта пагражае". "Мы, напрыклад, і да гэтага часу не змаглі дабіцца, каб у календарах чалавецтва побач з іншымі славутымі імёнамі сталі імёны Купалы, Коласа, Багдановіча..."

Яўген Іванавіч Скурко яшчэ ў 1946 годзе абураўся, што ідзе спойванне людзей. "Нідзе не бачыў, як у Віцебску, столькі розных ларкоў з гарэлкай. Яе прадавалі на кожнай вуліцы".

Ніколі не парываў сувязі з землякамі Яўген Іванавіч. Проста заходзілі да яго, расказвалі пра падзеі на Мядзельшчыне, у Пількаўшчыне: "Сёння начавалі ў нас мае пількаўчане. Прыехалі на рынак. Скардзіліся, што ніяк пасля вайны не могуць наладзіць свайго жыцця. Вось тут і пішы бадзёрыя творы пра сучаснасць".

Да паэта дайшла вестка, што ў Пількаўшчыне ўлады не могуць арганізаваць калгас, бо не хочуць першымі ў яго ўступаць бацька і дзядзька. Яўген Іванавіч паспяшаўся на радзіму і растлумачыў родным, чым можа гэта для іх скончыцца.

З дзённікаў даведваемся, што Яўген Іванавіч заступаўся перад уладамі за сваіх сяброў, знаёмых і нават незнаёмых людзей. Да яго звяртаюцца сябры па падпольнай рабоце ў даваеннай Польшчы. Едуць з Мядзела пасланцы, каб заступіўся за знятага з пасады першага сакратара райкома партыі С. Роўду. А рыбак з вёскі Качаргі просіць пахадайнічаць, каб змякчылі меру пакарання яго сыну.

Перад вайной з Пількаўшчыны ў Паставы пераехала былая настаўніца Францішка Адамаўна Скурко. Стала працаваць у Паставах. Паэт піша: "Адзін час яе хацелі звольніць з работы за тое, што хадзіла маліцца ў касцёл. Але мне ўдалося за яе заступіцца. Дапамог у гэтай справе і Ф. Маркаў, які быў намеснікам старшыні Маладзечанскага аблвыканкома".

І так паэт пісаў у вярхоўныя інстанцыі, званіў, хадзіў. Не ўсім удавалася дапамагчы. Людзі спадзяваліся. "... іх не пераканаеш, што ў пісьменніка менш правоў, чым у нейкага калгаснага начальніка, але затое больш за ўсіх - абавязкаў". А чаму ўсё так адбываецца? Адказ знаходзім на старонках дзённікаў: "... разбудаваны апарат бюракратызму". "Не ведаю, якому богу маліцца, каб спыніў нашы нікому не патрэбныя і ўсім надакучыўшыя нарады". "Ніяк не ўдаецца прабіць сцяну маўчання навокал М. Забэйды і выпусціць серыю пласцінак з яго песнямі. Двойчы хадзіў я па розных інстанцыях і нічога не дабіўся". Заступаўся паэт за сям'ю Ларысы Геніюш, сустракаўся з зямлячкай Паўлінай Мядзёлкай, каб пасадзейнічаць у друкаванні яе кнігі ўспамінаў.

Неабыякавым быў Яўген Скурко да прыроды. З аднаго боку захапляўся прыгажосцю Нарачы, лясамі, барамі Беларусі, прысвячаў ім паэтычныя радкі. З другога - не мог маўчаць, што сам чалавек з'яўляецца яе рабаўнікам, марнатраўцам. "Ужо дыхаем газам, п'ем атручаную ваду, ужываем прадукты, занячышчаныя хіміяй. Экалагічная катастрофа стала рэальнасцю". "Меліяратары асушылі ўсе нашы лугі і балоты, але чамусьці запусцілі пад хмызы і лес многія ранейшыя ворныя землі".

А што дзеецца на ўзбярэжжы Нарачы? Вось словы Яўгена Іванавіча: "Да паўдня блукаў па нарачанскіх сасняках. Як засмецілі гэты лес! Відаць, праўда, што "чалавек з'яўляецца адзіным са звяроў, які напаўняе глыбокім сапраўдным непакоем (Б. Шоў)". "Недзе ў тумане па расплыўчатай яснасці ўгадваецца сонца. Цішыня. Я хадзіў у грыбы. Знайшоў штосьці пару чашчавікоў ды падасінавік. Пасля турысцкай саранчы лес не можа прыйсці ў сябе. Усюды бітае шкло, іржавыя кансервавыя бляшанкі, сляды вогнішчаў".

Сваім родным, блізкім Яўген Скурко прысвяціў шмат старонак у дзённіках. Трывожылася сэрца за хворую жонку, маці. "Не стала на зямлі нашай Маці, з якой я нікога не магу параўнаць па сціпласці, працавітасці, любові да дзяцей і святасці. Ніхто, як яна, не ўмеў радавацца, калі мы яе наведвалі". Разам з бацькамі Яўген Іванавіч балюча перажыў трагедыю: у час вайны былі забіты сястра Вера і яе двухгадовы сын, швагерка з дзевяцігадовым сынам. Забілі, як казалі паэту, партызаны за тое, што муж сястры падвозіў на падводзе ў Куранец нямецкага чыноўніка (а ці мог чалавек у тыя дні адмовіцца ад загаду?).

Хто ў дзяцінстве і юнацтве з'яўляўся першым настаўнікам паэта? Адказ знаходзім у такіх радках дзённікаў: "Відаць, найлепшай маёй школай была мая Пількаўшчына. Там я вывучаў мову, знаёміўся з жыццёвай філасофіяй яе людзей, палюбіў працу, стаў паэтам. Успамінаю пагаворку свайго дзеда: "Вялікаму пану і сабаку ўсё можна".

Чытаў Яўген Іванавіч у розных выданнях, што пішуць пра землякоў, іх справы, даваў сваю ацэнку. "Прачытаў нарыс А. Жука пра нашага сваткаўскага



настаўніка М. Пашкевіча. Які гэта быў цікавы чалавек, выдатны выхавальнік, аматар літаратуры, паэт. Шкада, што так хутка адышоў ад нас. Ён некалькі раз прыязджаў у Пількаўшчыну, і бацькі мае з захапленнем і пашанай гаварылі аб ім".

Запісы ў дзённіку раскрываюць погляды Яўгена Іванавіча на мінулае нашага народа. Як тут не пагадзіцца з такім выказваннем: "Мы - людзі, якія мелі айчыну, але доўга нам забаранялі яе вымавіць імя; мелі мову, але саромеліся назваць - сваёй; мелі гісторыю, але баяліся прызнацца, што яна - наша". Спрадвечная наша трагедыя. Больш дужыя суседзі вербавалі і сілай змушалі пераходзіць на іх старану інтэлігенцыю і багацейшую праслойку народа, надзяляючы іх рознымі прывілеямі, пасадамі, дабрабытам, магчымасцю выхаду іх у шырокі свет".

А чаму Беларусь раней (ды і цяпер) мала ведаюць у свеце? Яўген Іванавіч прыводзіць у дзённіках вытрымку з твору польскага аўтара Т. Канвіцкага: "Не ўрэзалася ў людскую памяць, Беларусь, не адбірала іншым свабоды, не рабавала чужых зямель, не марнавала людзей за суседняй мяжой. Таму цябе мала хто помніць".

У свой час у рэспубліцы пракацілася хваля па перайменаванню населеных пунктаў. На гэту падзею паэт адгукнуўся такім запісам: "Па волі нейкага начальніка перайменавалі Кабыльнік на Нарач. Зараз і вёска Купа - Нарач, і калгас - Нарач, і санаторый - Нарач, і біястанцыя - Нарач... І ў Мінску рэстаран - Нарач, і сыр - Нарач...

Наконт славы паэт пісаў: "Сёння зайшла гутарка аб славе. Я рад, што даўно вылечыўся ад гэтай хваробы, якая многім нашым пісьменнікам атручвае жыццё".

Няма ў жывых вернага Сына Радзімы, Чалавека, Паэта. Яго імя ўвекавечана ў назвах педагагічнага ўніверсітэта, школы, вуліцы, бібліятэкі, сельскага прадпрыемства. Вечным сном спіць на могілках на радзіме разам з бацькамі, жонкай, суседзямі. Спіць Чалавек, які праз усё сваё нялёгкае жыццё пранёс любоў да людзей і якія яго любілі і паважалі. Ці не аб гэтым сведчыць падарунак вядомага на ўсю Беларусь гераічнага лёсу чалавека Кірылы Арлоўскага, які ў свой час перадаў 4 яблынькі для саду на беразе возера Нарач. Яблынькі - сімвал прыгажосці, радасці, жыцця, дабрабыту.

*Міхаіл ЧАРНЯЎСКІ.*

Спорт у рэгіёне

## Аб перамогах сведчыць нават імя

*ВІЛЕЙКА. Адзінаццацікласніца СШ №4 Вікторыя Вяроўкіна апошнім часам стала самай папулярнай спартсменкай у маладзёжным асяроддзі.*

Лёгкаатлетка перамагла ў спартакіядзе школьнікаў Беларусі, рэспубліканскіх юнацкіх гульнях у Гродне, міжнародных юніёрскіх гульнях у Мюнхене. Трэцяй стала на алімпійскім тыдні ў Варшаве. А на чэмпіянаце краіны сярод дарослых у Гомелі ўстанавіла рэкорд Міншчыны.

*Марына Тачынская.*

## У "Папараці" - "Фартуна"

*МАЛАДЗЕЧНА. У маі мясцовая каманда брыджыстаў заняла III месца ў вышэйшай лізе чэмпіянату краіны.*

За "Фартуну" тады выступалі **Я. Чаеўскі** (капітан), **Я. Гардзей, С. Быкаў, С. Калінковіч, А. Грынцэвіч і Дз. Мароз.**

А ўжо 25-26 кастрычніка ў Маладзечне стартуе I тур новага першынства РБ. **Яўген Чаеўскі** лічыць, што каманда мае патрэбу ў свежых сілах. Што, дарэчы, пацвердзіў нядаўні міжнародны турнір, які прайшоў у горадзе. Прыходзьце ў 19-00 па аўторках і чацвяргах у маладзечанскі брыдж-клуб "Папараць".

*Аддзел інфармацыі.*

## Магазін у спартыўнай зале

***АСТРАВЕЦ. — У нас ёсць выдатная спартыўная зала ў Рымдзюнах, 36х18 м, - расказвае Пётр РОМАШ, старшыня райспорткамітэта, - пабудаваная на сродкі літоўскай дыяспары. На жаль, лепшая зала ў райцэнтры выкарыстоўваецца пад магазін і складскія памяшканні. Яна не дзяржаўная і, хутчэй за ўсё, горад яе выкупіць.***

Вынікова працуе ДЮСШ па лёгкай атлетыцы (дырэктар **Уладзімір Пятроў**), дзе займаюцца каля 300 дзяцей. На апошняй абласной спартакіядзе яны занялі агульнае 3 месца. Выдатна выступілі сярод зборных раёнаў і нашы валейбалісты. Жанчыны сталі першымі, а мужчыны - другімі. На жаль, няма буйных прадпрыемстваў ды і заможных бізнесменаў, якія маглі б утрымліваць каманды па гульнявых відах. На абласным узроўні рэгулярна гуляем толькі ў міні-футбол.

З асобных відаў добра развіваецца бокс, у чым заслуга энтузіяста сваёй справы **Аляксея Маргуша**. Адзін з яго выхаванцаў, **Андрэй Зарэцкі**, някі даўна стаў майстрам спорту і ўдзельнічае ў розных прадстаўнічых турнірах. А найбольш важкім з'яўляецца традыцыйны сакавіцкі турнір па боксе імя З. З. Шырынскага.

Дарэчы, Здзіслаў Здзіславіч у 60-ыя гады выхаваў, бадай, найбольш вядомую ў спартыўным свеце прадстаўніцу Астравеччыны Караліну Пятровіч, якая была рэкардсменкай свету і чэмпіёнкай Еўропы па кіданні кап'я сярод юніёраў.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ*



## У "міні" чэмпіён вызначаны - ЗЛМК



*Каманда-пераможца: Ігар Шыян (капітан), Лёша Цярэшка (варатар), Аляксандр Страх, Валодзя Багіно, Анатоль Грынь, Валера Нініч, Сяргей Капцюг, Валодзя Уснарскі, Валодзя Спірын. Інструктар па спорце Жукоўскі Марат, стварыў каманду Іван Хоміч.*

***МАЛАДЗЕЧНА. Як сведчаць самі футбалісты, не апошнюю ролю ў іх перамогах у першынстве горада мела падтрымка дырэктара завода Мікалая ЧУРСІНА. А лепшым гульцом каманды вызначаны Ігар ШЫЯН.***

Другое месца заняла каманда завода "Спутнік" - "Хваля", трэцяе - "Дынама". Лепшыя ў іх - Вадзім Рыдванскі і Ігар Якаўлеў. З чым іх і віншуем. Далей размясціліся - "Аўтамабіліст" (лепшы - Вадзім Страшынскі), "Электрамодуль" (Аляксандр Казлоўскі), "Колас" (Аляксандр Цярэшка), "АВПС" (Уладзімір Ледзято), "Рамас" (Юры Садоўскі). Апошнія "Фартуна" і "Чайка".

Больш за ўсіх забівалі "ЗЛМК" (31 мяч) і "Хваля" (30 мячоў). Варатар апошняй прапусціў усяго 6 мячоў. У перапынку футбольнага матчу "Маладзечна" - "МПКЦ" пераможцам уручаць галоўны прыз, а лепшым у сваіх амплуа - сувеніры.

*Алег ГУЛЕЦКІ,*
*фота Алега БАШТАВЕНКІ.*

## Вялікі футбол

Першая ліга. 19 тур.

"Атака" - **"Маладзечна"** 3:1.

Пасля 19 тура ФК "Маладзечна" займае 12 месца - 19 гульняў, 5 перамог, 6 нічыіх, 9 паражэнняў, забіта 19, прапушчана 30 мячоў. ФК мае 18 ачкоў, адстае ад "Атакі" і "Камунальніка" на 3 ачкі і апярэджвае "Тарпеда-Кадзіно" і "Нёман" (Гродна) на 2 ачкі.

Чэмпіянаты вобласці.

Меліяратар (Капыль) - **Маладзечна-96** 0:0

Беларуськалій (Салігорск) - **Прадпрымальнік** (Вілейка) 3:1

**Іслач** (Валожын) - Гайна (Барыс. р-н) 0:1

**ФК Смаргонь** - Нёман-СДЮШАР (Гродна) (няяўка гасцей)

Анонсы:

20.09 **Маладзечна-96** - Аўтамабіліст (Нясвіж)

20.09 **Прадпрымальнік** - **Іслач**

21.09 Цэментнік (Ваўкавыс. р-н) - **ФК Смаргонь**

На Гродзеншчыне засталося згуляць матчы апошняга тура. Каб заняць 1 месца, смаргонцам патрэбная перамога над сваім галоўным канкурэнтам. Гэта будзе сапраўдны фінал!

У чэмпіянаце Мінскай вобласці за 4 туры да фінішу Маладзечна-96 лідзіруе з адрывам у 11 ачкоў.

Ну, а сустрэча вілейчан (7 месца) з валожынцамі (12 месца) набывае непрадказальны статус дэрбі.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ*





*Верхні здымак - "Хваля", унізе - "Дынама"*

Трагедыі

## Хто адкажа за смерць дзяцей?

***МАЛАДЗЕЧНА. Трагедыя здарылася ў вёсцы Пятроўшчына, цэнтральнай сядзібе калгаса "За ўладу Саветаў". Сям'я ГАМОЛКАЎ страціла дзяцей: 6-гадовага Сашу і 4-гадовую Аню.***

Для рамонту камунікацый водазабеспячэння яшчэ год таму рабочыя гаспадаркі вырылі катлаван 10х7, глыбінёй пад 2 метры. Па словах вяскоўцаў, у яму трапляла хатняя жывёла і неаднаразова даводзілася яе выцягваць.

У той дзень брат і сястра гулялі ля дома. Маці - хатняя гаспадыня - круцілася па гаспадарцы. Бацька яшчэ раней паехаў на заробкі ў Расію. Пасля абеду маленькія жыхары вёскі зляцеліся разам; бегалі па вуліцы - звычайныя дзіцячыя гульні.

Аня паслізнулася на гліністым краі катлавана і з'ехала ў ваду. Саша кінуўся ратаваць - і таксама знік пад вадою. Плаваць малечы не ўмелі. Астатнія дзеці з крыкам пабеглі за дарослымі (старэйшы з кампаніі - чацвертакласнік). Выратаваць Аню і Сашу не ўдалося.

**Прадстаўнік пракуратуры Міхаіл Дубовік.** Заведзеная крымінальная справа. Устанаўліваюцца канкрэтныя асобы, вінаватыя, хутчэй за ўсё, у халатнасці.

**Старшыня калгаса Васіль Касцюк** (крыху больш за месяц, як на пасадзе). Такой страшэннай трагедыі вёска не памятае. Калгас дапамог сям'і грашыма, мясам на памінкі. Катлаван засыпалі.

**Судмедэкспертыза.** Такія выпадкі бывалі і раней. Напрыклад, утапілася дзіця ў катлаване па вуліцы імя Калініна.

*Васіль САВІЦКІ.*

## Выхадныя на канапе

# Новыя часопісы, кнігі, відэа- і аўдыёзапісы

*Неўзабаве скончацца палявыя работы, з'явіцца вольны час. Можна пачытаць, паслухаць музыку ці паглядзець відэафільмы. Мы пазнаёмім вас з новымі кнігамі, часопісамі і запісамі, якія можна набыць у кіёсках.*




АЎДЫЁКАСЕТЫ

Попс - **Белы Арол** "Птица высокого полета", **Чэрнікава** "Тайна", **М. Шэлег** "По садовому кольцу", "Песні пра Маскву", "Музыка ў стылі BMW", "Супервечарынка", "Вечарынка працягваецца", "Радыёхіт-1", "Мелодыі адыходзячага лета". Рок - **Нагу Звяло** "Шчаслівая, таму што цяжарная", **Акварыўм** "Гіпербарэя". Замежная музыка - PRODIGY, MIB "Men in black", SPICE GIRLS, Cinderella "ONCE UPON A...", MORTAL KOMBAT.

Пад якую музыку адпачываць - справа ваша...

ВІДЭА

Баявікі - "Нико 10", "В мгновение ока", "Долгое падение", "Порох", "Обратная сила", "Правила игры". Камедыі - "Бомба", "Бивис и Батт-Хед покоряют Америку", "Камилла". Фантастыка - "Звездные войны" (1-4 часткі), "Звёздные врата" (паз. копия), "Полтергейст". Трылеры - "Сладкое убийство", "Человек К". Прыгодніцкія ленты - "Дон Кихот возвращается", "Двенадцатая ночь", "Волшебное приключение Авы", "Драйвер".

"Блеск" - амаль дакументальная гісторыя жыцця таленавітага музыканта, піяніста.

Да ўсяго вышэйназванага далучыце страшную казачку "Белоснежка", авантуру "Тихушники", мультфільм "Пэппи - Длинный Чулок" і гэтага вам хопіць нават не на адныя выхадныя.

ЧАСОПІСЫ

Для жанчын - "Касмапалітэн", "Бурда" (са спецвыпускамі), "Сандра", "Золушка", "Сабрына", "Дыяна", "Мары Клары", "Жаночы клуб", "Ліза" (з дадаткам "Лепшыя рэцэпты"), "Валянціна", "Салон". Для мужчын - "Зброя", "Стэрэа", "Відэа аўдыё". Для падлеткаў - "Камп'ютэрныя гульні", "Internet". Для сямейнага чытання - "Дамашні ачаг", "Дамавік", "Мэбля", "Адпачні", "Сямейны доктар", "Добрыя парады", "Смак". Газета "Спид Инфо".

Цэны розныя, напрыклад, "Касмапалітэн" каштуе 110 тысяч рублёў, "Дамавік" - 86000. Таннейшы - "Смак" - усяго 26 тысяч.

КНІГІ

Н.Лявонаў "Защита Гурова"
Д.Карэцкі "Акция прикрытия"
А.Варонін "Мишень для Слепого"
А.Марынина "Мужские игры"
Д.Фэйзер "Венера"
С.Э.Філіпс "Медовый месяц"




Часопісы, кнігі, аўдыёзапісы маладзечанцы могуць набыць у кніжным кіёску па вул. Л. Талстога (каля прадуктовага рынку). Відэафільмы - у пункце пракату па вул. Б.Хмяльніцкага, 10 (інтэрнат палітэхнікума).

## Яўрэйскі анекдот

# Гандляр і пакупнік

✡ ✡ ✡

Абураны пакупнік урываецца ў краму:

- Што за матэрыял вы мне прадалі, пане крамнік?! Кравец сцвярджае, што гэта найгоршая старызна!

- Што тут спрачацца? - супакойвае яго гандляр. - Пан проста шчаслівчык. У вас, шаноўны, толькі тры метры гэтай старызны, у мяне ж ёю завалены магазін!

✡ ✡ ✡

Уладальнік галантарэйнай крамы звольніў экспедытара.

- Навошта ты звольніў Ёселя, - пытаецца сябра. - Гэта ж такі спрытны і працавіты хлапчына.

- Гэты шкоднік распавядаў, што я ідыёт!

- О-о, разумею. Калі ён раскрыў таямніцу фірмы, ты не мог зрабіць інакш.

✡ ✡ ✡

Гандлёвы пасрэднік набывае тавар у аптавіка. Гаспадара выклікаюць да тэлефона. Кліент не можа перамагчы спакусы: карыстаецца выпадкам і ціхенька кладзе ў кішэнь тузін шаўковых панчох.

Дома, праглядаючы рахунак, раптам выяўляе, што ўкрадзены тавар уключаны ў фактуру.

З вуснаў пасрэдніка вырываюцца словы абурэння і здзіўлення:

- Вой, вой! Вось гэта злодзей!

✡ ✡ ✡

Гандляр з Лодзі напярэдадні пасяджэння суда павінен быў выехаць у Кракаў. Таму папрасіў свайго адваката паведаміць тэлеграмай пра ход працэсу.

Пасля пасяджэння адвакат адбівае паведамленне: "Справядлівасць перамагла!"

Праз гадзіну атрымлівае адказ: "Неадкладна падавай на апеляцыю!"

